



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

17 студзеня 2014 года №3 (977)



**Што рабіць з горамі непатрэбнай адзежы**
Вам не патрэбна, а хтосьці за гэта скажа "дзякуй"
старонка 3

**Дарыя:**
"Вельмі рада, што на "Еўрабачанне" паедзе "Тэа"
старонка 6

**Пётр Краўчанка аб беларускай нацыі**
с. 21

**Як адзначыць Дзень выратавальніка? Узарваць вагон**
с. 4

**Трэнер Сяргей Ракіта: Пра каратэ ўспамінаю і ў крэсле стаматолага**
с. 22


## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### "Планета Японія"

**МЯДЗЕЛ.** У музеі народнай славы 17 студзеня стартуе пазнавальна-адукацыйны праект "Планета Японія". Прадстаўляе яго японскі Цэнтр культуры і спорту "Добрасуседства" з Токіа. Можна будзе пабачыць больш за 80 экспанатаў з Японіі. Гэта васковыя фігуры самураяў, персанажы японскіх казак, лялькі дзевятнаццатага стагоддзя, гравюры з Такійскага Нацыянальнага музея, цацкі, абутак. У залах будуць гучаць японская музыка, дэманстравацца відэа, – распавяла дырыктар музея **Святлана Чарняўская**. Ахвотныя змогуць прымераць кімано, узяць у рукі веер ці зброю. Тэматычныя гутаркі і лекцыі правядуць спецыялісты японскага Цэнтра. Працягнецца выстава па 2 лютага.

### "Лядовыя пінгвіны" запрашаюць на матч дабрачыннасці

**МАЛАДЗЕЧНА.** Матч "Лядовых пінгвінаў" і сталічнай каманды "Ice City-2 Extra" пройдзе 24 студзеня ў спартыўна-забаўляльным цэнтры. Пачатак у 21.15. Падчас матча гульцы каманды "Лядовыя пінгвіны" будуць ладзіць дабрачынную акцыю для выхаванцаў Маладзечанскага сацыяльна-педагагічнага прытулку. Кожны, хто прыйдзе на матч, зможа паўдзельнічаць у акцыі, калі прынясе для дзяцей канцылярскія тавары, цацкі, бялізну, дыскі, кнігі, спартыўны інвентар, адзенне, абутак, сродкі гігіены. Па словах гульца каманды "Лядовыя пінгвіны" **Сяргея Гайдукевіча**, хлопцы з мінскай каманды таксама адгукнуліся на ініцыятыву і прывязуць з сабой шмат рэчаў для дзіцячага прытулку. Акцыя будзе праходзіць такім чынам: гульцы каманды "Лядовыя пінгвіны", якія не будуць задзейнічаныя ў матчы, пройдуць па трыбунах і збяруць тыя рэчы, што прынясуць на матч заўзятары. Або так: у пэўных месцах будуць стаяць спецыяльныя скрыні, куды ўсе ахвотныя змогуць пакласці свой падарунак дзецям. Потым хакеісты "Лядовых пінгвінаў" наведаюць прытулак і асабіста перададуць усе падарункі дзецям. Маладзечанскія хакеісты запрашаюць аматараў хакея, а таксама неабыякавых людзей прыняць удзел у акцыі.

**Аддзел інфармацыі.**





# Рызыкуючы жыццём, патушыў пажар на запраўцы

**МЯДЗЕЛ. Больш за дваццаць тысяч праглядаў на YouTube, сотні каментарыяў на папулярным беларускім сайце... Немалую цікавасць выклікаў зняты відавочцам 30 снежня ролік пра загаранне іншамаркі на аўтазаправачнай станцыі №11 "Беларуснафты" ў Мядзеле.**

Ацанілі каментатары і тое, як хутка пажар быў ліквідаваны: "Супрацоўнік запраўкі малайчына, не разгубіўся!", "Работніку прэмію!"

Першым кінуўся тушыць машыну малады аператар **Сяргей Трацэўскі**.

– Быў на змене на газавай запраўцы, – узгадвае ён той дзень. – Убачыў, як ля калонкі на АЗС загарэўся аўтамабіль і адразу пабег тушыць.

**– Не баяліся?**

– Нават неяк і не задумваўся пра гэта.

А загарэлася ля адной з паліваразадатачных калонак аўтамашына "Фольксваген Гольф-2". Кіраваў ёй чалавек паважнага ўзросту – 83 гады мае!

– Ён расказаў, што наліваў бензін у жалезную каністру ў багажніку, – дзеліцца Сяргей. – Пэўна, калі закрываў яе, узнікла статычнае напружанне, з'явілася іскра, і каністра загарэлася. Мужчына выкінуў яе з машыны, паліва разлілося. Словам, загарэліся і машына, і бензін на асфальце. І ў вадзіцеля рукі абгарэлі – выклікалі потым "хуткую".

Глядзелі ў запісе: 30 секунд прайшло, як загарэлася машына, а яшчэ паўхвіліны – і патушылі ўжо. Справіліся самі, выратавальнікаў выклікаць не давялося. Дзейнічалі згуртавана: тушу – заўважаю, што ў вогнетушыцелі ціск стаў падаць. Пабег за другім – гляджу: ужо наш майстар **Пётр Станіслававіч Тачыцкі** з другога боку тушыць. Супрацоўнікі станцыі выбеглі, крычалі людзям, каб не падыходзілі.




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Аператар Сяргей Трацэўскі.

**– У каментарыях у інтэрнэце шмат добрых слоў у ваш адрас выказана. Многія пішуць, што вы прэміі заслугоўваеце.**

– Можа, дадуць, – усміхаецца Сяргей. – З Маладзечна кіраўніцтва прыязджала, хваліла нас, што аператыўна патушылі.

**– Аднак вас гэтаму і вучаць.**

– Так. Штогод праходзім навучанне па тэхніцы бяспецы. Ведама, вучымся і як з вогнетушыцелем абыходзіцца.

**– А што кіроўцам параіце рабіць, каб падобных выпадкаў не было?**

– Строга выконвайце ўсе правілы пры запраўцы машыны. А ў гэтым выпадку каністру трэба было на зямлю ставіць, а не ў багажніку яе напаўняць – каб зазямліць.

### Калі аўтамабіль загарэўся

Што трэба рабіць, калі загарэўся аўтамабіль, распавёў галоўны спецыяліст дзяржпажнагляду Мядзельскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Юры Вашкінэль:**

– Уключаем аварыйку, высаджваем пасажыраў. Калі ў салоне машыны чалавек, а дзверы заклінавала, выбіваем шкло.

Адшчэпліваем капот. Па нумары 101 выклікаем выратавальнікаў або просім кагосьці гэта зрабіць. Калі дым ідзе з-пад капоту, яго трэба адкрываць асцярожна, лепш збоку. Шырока адкрываць капот не варта: прыток кіслароду толькі дасць агню разгарэцца.

Накіроўваем струмень вогнетушыцеля на ачаг загарання. Для ліквідацыі выкарыстоўваем шчыльную тканіну, брызент, пясок, снег.

Калі вы не можаце справіцца з полымем і агонь ахоплівае ўсю машыну – лепш не рызыкуйце. Адыдзіце на бяспечную адлегласць самі і адвядзіце людзей.

Аўтамабілі, якія знаходзяцца побач, трэба адкаціць у бок або паліць вадой, каб агонь не перакінуўся на іх.

**Даведка "РГ".** YouTube – гэта сусветна вядомы сэрвіс у інтэрнэце, які дае магчымасць карыстальніку праглядаць і размяшчаць відэа.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Апытанку на гэтую тэму чытайце на 24-й старонцы.**

КАПРЫЗЫ НАДВОР'Я

# Янотаў бачыце? Не?

## Значыць, пра анамаліі ў надвор'і гаварыць рана



Фота Наталлі ТУР.

Дачакаліся. Нарэшце ў панядзелак, 13 студзеня, прыйшла зіма.

**Анамальна цёплае надвор'е ў студзені выклікае шмат размоў і хваляванняў. Што гэта – анамаліі і катаклізмы? Ці значыць гэта, што ў маі можа выпасці снег і загіне ўвесь ураджай? Ці час біць трывогу і рыхтавацца да глабальнага пацяплення?**

**Вячаслаў Лапко**, начальнік вілейскай гідраметэастанцыі, каментуе гэта так:

– Такой зімы не было амаль 40 гадоў. Вядома, гэта анамалія. Клімат мяняецца. І на стане людзей, і на стане прыроды адбіваецца.

Надвор'е, якое прыйшло ў пачатку гэтага тыдня, нарэшце, можна лічыць пачаткам зімы. Па ўсіх прагнозах, зіма ўсталюецца ў Беларусі. Але ненадоўга.

У хуткім часе нас зноў чакаюць адлігі.

Аднак спецыялістаў па сельскай гаспадарцы такое надвор'е трывожыць. Зразумела, у сярэдзіне студзеня яшчэ рана гаварыць пра ўраджай гэтага года, але ў цэлым становішча для азімых не з лепшых.

### Такое надвор'е для раслін не самае лепшае

Распавядае намеснік старшыні СВК "Гудагай" **Андрэй Вінча**:

– Ужо цяпер збожжавыя і рапс пачалі вегетацыю. І гэта блага. Блага таксама і тое, што на цёплую, незамерзлую зямлю выпаў снег. Гэта пагражае раслінам выправаннем. Ім проста пад снежным покрывам робіцца горача, і яны пачынаюць прарастаць. Якраз у мінулым годзе такое і было. Снег лёг у сакавіку на ўжо цёплую глебу, ад гэтага ўраджай значна пацярпеў. Тое самае можна сказаць і пра зваротную сітуацыю: калі надыходзяць вялікія маразы, а снежнага покрыву няма, то расліны непазбежна вымярзаюць.

**– Якія расліны найбольш адчувальныя да рэзкіх змен у надвор'і?**

– Самая адчувальная расліна – гэта рапс. Адзін раз на тры гады ў нас рапс вымярзае.

Самая ўстойлівая – гэта жыта. Яшчэ шмат чаго залежыць ад глебы. Калі вы з восені падкармілі яе фосфарам і каліем, то раслінам перазімаваць будзе лягчэй.

**– А як захаваць расліны ад выправання ці вымярзання?**

– Калі ў вас участак метр на метр, парады даваць проста. Калі ляжа снег, а на вуліцы амаль нулявая тэмпература, проста прыбярыце снег, каб расліны не пацелі. А калі ўдарыць мароз – накрыйце плёнкай. Іншая справа, калі засеяная вялікая плошча. Тут трэба толькі спадзявацца на лепшае.

### Усё ў прыродзе адбываецца своечасова

Эколагі, у адрозненне ад аграномаў, лічаць, што трывогу біць не трэба.

– Ніякай анамаліі ў прыродзе няма. Усё калісьці было: і снег у Егіпце, і Ніагарскі вадаспад замярзаў, – кажа начальнік Маладзечанскай райінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Уладзімір Чарноў**. – Перыяды пацяплення змяняюцца перыядамі пахаладання. Але на Вадохрышча ўсё адно маразы. Захочаш нырнуць у палонку – і на табе, мінус 20.

У адным з гістарычных дакументаў я калісьці прачытаў, што Радзівілы ў цяперашнім Калінінградскім краі прадавалі сваю маёмасць, у якой былі і вінаграднікі. Клімат калінінградскі падобны да беларускага. Калі тады рос вінаград, ці не цяплейшымі былі зімы?

**– А ці запомніліся вам цёплыя зімы, акрамя сёлетняй?**

– У 1997 або 1998 годзе, я дакладна памятаю, бярозавы сок пачалі нарыхтоўваць 27 лютага. Цяпер я таксама назіраю за прыродай: ні пупышкі на дрэвах не распускаюцца, ні звяры не прачынаюцца. Вось яноты. Гэта прродныя барометры. Вы бачылі, каб яны хадзілі па Маладзечне? Не? Значыць, спяць. І яшчэ прывяду прыклад мінулагодні. Памятаеце, снег сышоў толькі ў красавіку, сельгасработы пачаліся толькі ў канцы красавіка. А на свята 9 Мая сады ўжо цвілі. Так што ўсё прыйдзе своечасова. Няма падстаў для хвалявання.



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08 @mail.ru

## А як надвор'е ў свеце?

**Зіма 2013 – 2014 года здзіўляе жыхароў усяго свету.**

14 снежня сапраўднай сенсацыяй прагучала тое, што **ў Афрыцы выпаў снег**, дакладней, не толькі ў Афрыцы.

Спачатку прыходзілі паведамленні, што снег выпаў у Ізраілі і Іарданіі. А потым ужо ўвесь свет абляцелі фотаздымкі, на якіх знакамітага егіпецкага Сфінкса прыцерушыла снегам.

Апошні раз снег у Егіпце выпаў у 1901 годзе ( 112 год таму), а гэта значыць, што многія егіпцяне першы раз у жыцці пабачылі снег.

Літаральна праз месяц з другой часткі свету, Паўночнай Амерыкі, прыйшло сенсацыйнае паведамленне, што **замерз Ніагарскі вадаспад.** Па праўдзе сказаць, і гэта здаралася не адзін раз. Аднак поўнасцю вада спынялася толькі раз – 29 сакавіка(!) 1848 года. І то, праз тое, што ледзяныя глыбы перашкаджалі плыні ракі.

Апошнія звесткі пра замерзлы вадаспад адносяцца да 1932 года. І вось у 2014 годзе, праз 82 гады, вадаспад зноў замерз. Вада не перастала цячы, але вадаспад больш падобны на піражнае безе, якое зверху паліваюць малочнай глазурай.

**Снег і моцныя маразы** сталі сапраўдным стыхійным бедствам для жыхароў амерыканскага кантынента. Тэмпература паветра ў Штатах апускалася ніжэй за 40 градусаў, снежны покрыў у некаторых раёнах дасягаў аджнакі ў 120 сантыметраў.

Прырода зноў і зноў прымушае спецыялістаў ламаць галаву: глабальнае гэта пацяпленне ці нешта іншае. А нам застаецца спадзявацца, што сюрпрызы, якія рыхтуе нам прырода, будуць толькі прыемнымі.

АХОВА ПРЫРОДЫ

# Паляванне і рыбалоўства: якія правілы дзейнічаюць?

**МЯДЗЕЛ. Апошнім часам у міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету ўсё часцей паступаюць тэлефанаванні ад рыбаловаў-аматараў і паляўнічых. Яны просяць растлумачыць сітуацыю з новымі правіламі рыбалоўства і палявання.**

У Беларусі зацверджаная новая рэдакцыя Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства. Адпаведны Указ №551 падпісаны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь 5 снежня 2013 года. **Указ уступіць у сілу праз шэсць месяцаў пасля яго афіцыйнага апублікавання.**

Цяпер дзейнічае старая рэдакцыя правілаў, зацверджаная ў 2005 годзе.

Хачу нагадаць, што, згодна з дзеючымі правіламі, аматарские рыбалоўства забараняецца з адначасовым выкарыстаннем адной або розных відаў прылад рыбалоўства з агульнай колькасцю кручкоў больш за 10 штук, з пакіданнем устаноўленых прылад рыбалоўства без нагляду. Калі іх знойдуць, то прызнаюць безгаспадарнымі (браканьерскімі) і канфіскуюць.

Таксама забараняецца аматарская лоўля рыбы з выкарыстаннем жарліц ("кружкоў", "ставак") без указання на іх прозвішча, ініцыялаў і адраса ўладальніка. Забараняецца ўезд і перамяшчэнне ў рыбалоўных угоддзях, у тым ліку пакрытых лёдам, механічных транспартных сродкаў.

**Уладзімір ХІЛА,**
**дзяржінспектар Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

# Лавілі ментузоў, нягледзячы на забарону

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. 26 снежня склалі адміністрацыйныя пратаколы на двух жыхароў Маладзечна, якія, нягледзячы на забарону, лавілі ментузоў на рацэ Вілія паблізу Вілейкі.**

25 снежня 26-гадовы маладзечанец на рацэ Вілія непадалёк ад Вілейкі ў цёмны час сутак з выкарыстаннем падводнай стрэльбы, асвятляльнага прыстасавання і прылад для падводнага палявання здабываў рыбу. Гэта чатыры ментузы агульнай вагой 0,7 кг.

Памер нанесенай шкоды роўны 36 базавым велічыням. На яго склалі адміністрацыйны пратакол, а на прылады для падводнай лоўлі наклалі арышт.

Другі пратакол склалі на 38-гадовага маладзечанца, які 25 снежня ў цёмны час сутак на рацэ Вілія лавіў ментузоў. Пры гэтым ён выкарыстоўваў падводную стрэльбу, асвятляльнае прыстасаванне і прылады для падводнага палявання.

Такім чынам, ён злавіў трох ментузоў і аднаго сярэбранага карася. Вага налоўленай рыбы – 0,5 кг. Памер нанесенай шкоды – 27,2 базавай велічыні.

**Паводле інфармацыі Маладзечанскай міжраённай інспекцыі.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Што рабіць з горамі непатрэбнай адзежы

## Вам не патрэбна, а хтосьці за гэта скажа “дзякуй”




Фота Настассі РОЎДЫ.

У Польшчы на вуліцах стаяць спецыяльныя кантэйнеры, прызначаныя для адзення і абутку.

**МАЛАДЗЕЧНА. Мая маці ўжо шмат гадоў запар выносіць торбы з адзеннем і пакідае іх проста пад сметніцай на зямлі. Кажа, што іх вельмі хутка забіраюць. Калі ж запыталася, чаму яна не нясе рэчы ў “Чырвоны крыж”, пачула ў адказ: “Вы не пішаце куды, а я і не ведаю”.**

Аднак шмат жыхароў усё ж такі ведаюць. Старшыня Маладзечанскай раённай арганізацыі Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа **Яўгенія Русецкая** кажа, што да іх амаль кожны дзень хтосьці прыносіць рэчы.

Некаторыя, не застаўшы нікога ў будынку “Чырвонага крыжа”, пакідаюць торбы з адзеннем і абуткам проста на ганку.

– Не прападуць, – кажа спадарыня Яўгенія. – А калі хто возьме, то толькі на карысць будзе. Многія нас загадзя па тэлефоне папярэджваюць, каб тут дакладна хтосьці быў.

**Будынак, дзе месціцца Маладзечанская раённая арганізацыя Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа знаходзіцца па адрасе: Маладзечна, вул. Прытыцкага, 7 (непадалёк ад кнігарні “Спадчына”). Тэлефон: (80176) 77-10-14.**

Разам з тым, амаль кожны дзень хтосьці прыходзіць па адзенне.

– Вось якраз зараз да нас прыехала шматдзетная сям’я з Чысці, пераглядаюць рэчы, – распавядае спадарыня Яўгенія. – Увогуле, за адзеннем і абуткам да нас прыходзяць і інваліды, і людзі без вызначанага месца жыхарства. Частку рэчаў аддаём у прыёмны пакой бальніцы. Часам туды трапляюць людзі, якія маюць у іх патрэбу. Акрамя гэтага – у камеру папярэдняга зняволення.

### Самая патрэбная рэч – мужчынскі абутак

Цяпер зіма. І асабліва адчувальная патрэба ў абутку, асабліва мужчынскім.

– Да нас прыходзяць людзі, у якіх падвязаная падэшва ў абутку, – адзначае Яўгенія Русецкая. – Калі казаць пра тое, што прыносяць найчасцей, то гэта дзіцячыя рэчы. Вельмі важна, што людзі адгукаюцца і дапамагаюць іншым. У жыцці можа здарыцца рознае. Бывае, прыехаўшы дамоў, бачаць сваё жыллё цалкам разрабаваным. І такія людзі прыходзяць.

### Прыносяць рэчы 80-х

Аднесці рэчы можна і ў Маладзечанскі раённы тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

**Месціцца цэнтр сацыяльнага абслугоўвання па адрасе: Маладзечна, вул. Касманаўтаў, 13.**

– Хочацца папрасіць жыхароў, каб прыносілі рэчы ў добрым стане і чыстыя, – адзначае намесніца дырэктара **Іна Мянцюк**. – Бо часам прыносяць і бруднае адзенне. Увогуле, у пакоі з рэчамі можна пабачыць тыя, што насілі дзесьці ў 80-х ці 90-х. Мабыць, складана людзям з імі расстацца.

Спадарыня Іна адзначыла, што вялікага наплыву людзей да іх няма. Часам рэчы ідуць з арганізацый.

**Настасся РОЎДА.**

САЦЫЯЛЬНАЯ ДАПАМОГА

# Пакой павышанай камфортнасці

**МЯДЗЕЛ. На базе аддзялення кругласутачнага знаходжання для пажылых жыхароў і інвалідаў Мядзельскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва адкрылі пакой павышанай камфортнасці.**

Паслугамі гэтага пакоя могуць скарыстацца грамадзяне непрацаздольнага ўзросту альбо інваліды як Мядзельшчыны, так і іншых раёнаў Мінскай вобласці.

Таксама пакой можа быць скарыстаны для аказання паслугі “Сацыяльная перадышка”. Гэта кароткі адпачынак для тых, хто даглядае сваіх непрацаздольных бацькоў. Паслуга можа быць прадастаўленая на час да трох тыдняў для аднаўлення сіл і рашэння сямейна-бытавых пытанняў.

Пражыванне ў пакоі павышанай камфортнасці адзначаецца лепшымі бытавымі ўмовамі: аднамеснае пражыванне, асобны санвузел, тэлевізар, халадзільнік, электрачайнік, стандартныя паслугі, якія аказвае аддзяленне (першая медыцынская дапамога, 4-разовае харчаванне, псіхалагічная дапамога і інш.).

Паслугі аддзялення кругласутачнага пражывання для пажылых грамадзян і інвалідаў па формах працы “Пакой павышанай камфортнасці” і “Сацыяльная перадышка” будуць аказвацца за плату.

Тэлефон для даведак: **(8 017) 55-3-33**.

**Мікалай МАРКЕВІЧ, дырэктар Мядзельскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

## Газіфікацыя спажывецкіх кааперативаў Маладзечанскага раёна ў 2014 годзе

У 2014 годзе Маладзечанскаму раёну выдзеленыя сродкі ў памеры 2 900 мільёнаў рублёў на фінансаванне газіфікацыі ў рамках Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 02.06.2006 года 368.

Рашэннем Маладзечанскага раённага выканаўчага камітэта плануецца зацвярджэнне Пераліку кааператываў для будаўніцтва і праектавання газаправодаў на 2014 год па Маладзечанскім раёне .

| № п/п | Найменне кааператыва , населенага пункта | Працягласць , км | Год выканання работ | Від работ | Сродкі раённага бюджэту (субвенцый), млн.руб. (70 % кошту работ) |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ПК "Выверы-2" вул.Маладзёжная, Падлесная ў в.Выверы | 1,8 | 2013 | Запазычанасць за праектныя работы | 9, 941 552 |
| 2 | ПК " Гарадок-2010" в.Гарадок | 10 | 2013 | Запазычанасць за праектныя работы | 68, 348 805 |
| 3 | ПК "Садок-Газ" в.Дамашы | 5 | 2013 | Запазычанасць за праектныя работы | 164, 014 562 |
| 4 | ПК "Выверы-2" вул.Маладзёжная, Падлесная ў в.Выверы | 1,8 | 2014 | Будаўніцтва | 344, 485 400 |
| 5 | ПК "Яхімоўшчына - 2009" д.Яхимовщина | 2,9 | 2014 | Будаўніцтва | 789, 053 300 |
| 6 | ПК " Гарадок-2010" в.Гарадок | 10 | 2014 | Будаўніцтва | 1 524, 156 381 |
| | **Усяго:** | | | | **2 900, 000 000** |

| Курсы валют НБ РБ | 9.01 руб. | 16.01 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9 530,00 | **9 560,00** |
| Еўра | 12 980,00 | **13 040,00** |
| Злоты | 3 105,09 | **3 143,08** |
| Літ | 3 755,67 | **3 773,51** |
| Расійскі рубель | 288,50 | **286,50** |
| Грыўня | 1 158,66 | **1 148,07** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9530/9620 | **9550/9610** |
| Еўра | 12950/13150 | **13010/13110** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 8.01 | 15.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 110100 | **109100** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45650 | **40200** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 64900 | **72000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 25900 | **24800** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28000 | **28500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32600 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 107000 | **93500** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 6500 | **9500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 4900 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13500 | **13500** |
| **Алей** | 11900 | **14500** |
| **Маянэз**, 200 г | 4200 | **5000** |
| **Соус “Мінскі”**, 0,5 л | 7800 | **7800** |
| **Кава “Nescafe”**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9750 | **9750** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 6500 | **6150** |
| **Капуста**, 1 кг | 4000 | **4000** |
| **Морква**, 1 кг | 5000 | **4800** |
| **Буракі**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 17000 | **22000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 13500 | **14500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 18500 | **15500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 25000 | **25000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 39000 | **25000** |
| **Перац**, 1 кг | 35000 | **34000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 25000 | **25000** |
| **Бананы**, 1 кг | 14000 | **13000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 8000 | **8500** |
| **Грушы**, 1 кг | 22500 | **18500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13000 | - |
| **Масла**, 1 кг | 75000 | - |
| **Тварог**, 1 кг | 40000 | - |
| **Бульба**, 1 кг | 4000 | - |
| **Сала**, 1 кг | - | - |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | - |

19 СТУДЗЕНЯ – ДЗЕНЬ ВЫРАТАВАЛЬНІКА

# Выратавальнікам дапаможа Эльза

**МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні Дня выратавальніка ў Маладзечанскім пажарна-аварыйным выратавальным атрадзе з'явілася кіналагічная служба.**

Пакуль у гэтым атрадзе "служыць" толькі адзін "баец" – лабрадор Эльза. Яе гаспадар маёр унутранай службы і начальнік кіналагічнай службы **Яўген Сцепулёнак** пазнаёміў са сваёй выхаванкай.

– Эльзе паўтара года. Самы ўзрост, каб пачаць яе трэніраваць. Яна будзе прымаць удзел у пошукавых аперацыях: даставаць людзей з-пад завалаў, шукаць тых, хто згубіўся ў лесе. Мяркуецца, што і на вадзе таксама зможа выратаваць.

**– А хто трэніруе Эльзу?**

– Трэніруюць яе некалькі чалавек, каб яна прывыкала да розных людзей і ўмела працаваць з кожным. Эльза у нас – улюбёнка ўсяго атрада. І яна з задавальненнем сябруе з усімі. Адзінае, што даводзіцца сачыць за тым, каб яе не падкормлівалі мае калегі.

**– Чаму для трэніроўкі і працы выбралі пароду лабрадора?**

– Па-першае, гэта мой сабака. А па-другое, лабрадор-рэтрывер выбраны для працы ў выратавальніках невыпадкова. Няма больш добрай, шчырай сабакі, чым лабрадор. Калі чалавек трапляе ў надзвычайную сітуацыю, ён можа паводзіць сябе неадэкватна. Таму сабака не павінен быць агрэсіўным. Вам вядома, што адзін сабака-выратавальнік можа замяніць дзесяць чалавек. Сабакам не патрабуецца спецыяльных прылад, каб шукаць людзей пад заваламі. У іх на гэта ёсць нюх, які вастрэйшы за чалавечы ў 40 разоў.

**– А акрамя Эльзы іншыя сабакі ў атрадзе з'явяцца?**

– У Маладзечне гэта першая кіналагічная служба, таму хочацца, каб яна развівалася.


Фота Наталлі ТУР.

Яўген Сцепулёнак са сваёй выхаванкай Эльзай.

# Як адзначыць Дзень выратавальніка? Узарваць вагон

**МАЛАДЗЕЧНА. Пажарна-аварыйныя выратавальныя атрады ёсць толькі ў абласных цэнтрах. Пашчасціла і Маладзечну. Напярэдадні свята "Рэгіянальная газета" завітала да выратавальнікаў у госці.**

Закончыўшы размову з начальнікам пажарна-аварыйнага выратавальнага атрада **Леанідам Малашкам**, ён сказаў:

– А цяпер пойдзем узрываць вагон.

Але аб усім па парадку.

**– Калі быў створаны атрад у Маладзечне?**

– Наша служба зусім маладая, атрад створаны ў маі 2011 года. Сёння ў яго ўваходзіць пяць спецыялізаваных службаў: пажарна-выратавальная, вадалазная, хімічная і радыяцыйная, медыцынская і выбуховатэхнічная. Усяго ў нас працуе 70 чалавек.

**– А моладзі многа? Ці з задавальненнем прыходзяць да вас працаваць?**

– У нас вельмі сур'ёзны адбор. Гэта дыктуецца тым, што службы ў нас усё ж такі спецыялізаваныя. Таму калі гэта хімічная служба, трэба быць выдатным хімікам, калі медыцынская – добрым доктарам, бо мы працуем у надзвычайных сітуацыях. Часу ўспамінаць тое, чаму калісьці вучылі, няма. І фізічныя дадзеныя таксама павінны быць на вышыні.

**– На якія надзвычайныя сітуацыі вам даводзілася выязджаць?**

– Запомніўся баявы выезд у Лагойск, калі там выбухнуў газ. Наша служба дапамагала даставаць людзей з-пад завалаў. Уцечка аміяку, што была ў Маладзечне. Наша хімічная служба праявіла тады сябе ў найлепшым выглядзе. У сярэднім у нас адбываецца каля 40 баявых выездаў на год. А вучэнні праходзяць пастаянна. Вось і сёння будзем адпрацоўваць дзеянні хімічнай і радыяцыйнай службы. Па легендзе, на чыгунцы здарылася цыстэрна з талуолам. Можа здарыцца выбух.

**– І што, выбух будзе сапраўдны?**

– Так. Але не хвалюйцеся, мы ж на тэрыторыі выратавальнага атрада. А калі спатрэбіцца, я вас асабіста закрыю грудзьмі.


Фота Наталлі ТУР.

Баец хімічнага атраду пасля пенатушэння вагона.

**Даведка "РГ".** Талуол – метылбензол, бескаляровая пажаранебяспечная, лёгкаўзгаральная вадкасць з характэрным пахам.



**Наталля ТУР.**
E-mail:
turenok_08
@mail.ru

СЛУЖБА 101

## Жанчына абліла сябе бензінам і падпаліла

**ВІЛЕЙКА. Паведамленне аб здарэнні ў вёсцы Мацькаўцы Вілейскага раёна паступіла да вілейскіх выратавальнікаў днём 4 студзеня.**

У прыёмны пакой раённай бальніцы звярнулася 32-гадовая жанчына з апёкамі твару і кісцяў рук.

Як аказалася, прыйшоўшы дадому 3 студзеня каля дзевяці гадзін вечара, жанчына пасварылася з мужам. Пасля чаго абліла сябе бензінам і падпаліла. Была яна ў нецвярозым стане.

У выніку загарання жанчына атрымала апёкі твару, кісцяў рук першай-трэцяй ступені.

Пацярпелая ў стане сярэдняй цяжкасці змешчаная ў хірургічнае аддзяленне Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы.

**Паводле Мінскага абласнога ўпраўлення МНС Беларусі.**

## Пакуль быў у гасцях – згарэў дом

**ВАЛОЖЫН. Пажар здарыўся 12 студзеня у мястэчку Івянец.**

Ратавальнікі, якія прыбылі на месца здарэння, выявілі, што дах дома гарыць адкрытым полымем. Людзей у доме не было. Гаспадар на момант узнікнення пажару знаходзіўся ў гасцях.

У выніку пажару агнём знішчаны ўвесь дах, пашкоджанае столевае перакрыцце на плошчы 10 кв. метраў жылога дома.

Як мяркуецца, прычынай пажару магло стаць парушэнне правілаў усталявання і мантажу печаў, цеплагенерыруючых агрэгатаў і прылад (адсутнасць супрацьпажарнай раздзелкі).

**Паводле Мінскага абласнога ўпраўлення МНС Беларусі.**

## Загінула жанчына

**ВАЛОЖЫН. На пажары ў Валожыне 14 студзеня загінула 78-гадовая жанчына.**

Калі прыбылі ратавальнікі, з-пад даху прыватнага дома ішоў дым.

Пакуль тушылі пажар, дом паспеў выгарэць знутры. У доме знайшлі труп гаспадыні.

Па словах суседзяў, жанчына ні з кім з іх зносін не падтрымлівала, нават не пускала да сябе на парог. Валожынскі цэнтр сацыяльнага абслугоўвання не раз прапаноўваў адзінокай жанчыне дапамогу, але тая заўсёды адмаўлялася.

Прычына пажару пакуль невядомая, паведаміла інспектар Валожынскага дзяржпажнагляду **Алеся Радзвіловіч**.

**Наталля ТУР.**

ЗДАРЭННІ

## Залезлі ў краму

**МЯДЗЕЛ. У ноч на 11 студзеня зладзеі залезлі ў краму ў вёсцы Зані Мядзельскага раёна. Для гэтага яны разбілі аконнае шкло і ўзламалі краты.**

Знікла з крамы спіртное на суму каля аднаго мільёна 600 тысяч рублёў.

Злачынства раскрылі ў той жа дзень, паведамілі ў аддзяленні крымінальнага вышуку Мядзельскага РАУС.

Крадзеж учынілі два непрацуючыя – жыхары вёскі Зані і Раманаўшчына. Некалькі год таму яны ўжо абкрадалі гэтую краму.

**Аддзел інфармацыі.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Шукаюць відавочцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Аварыя адбылася 1 снежня каля 17.40 на трасе Радашкавічы – Ракаў на ўездзе ў гарадскі пасёлак Радашкавічы.**

Кіроўца аўтамабіля "Сітраэн Эвазіон" наехаў на пешахода, які ішоў насустрач.

Аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС просіць кіроўцаў і відавочцаў аварыі звярнуцца да іх у кабінет 12 альбо 18.

Тэлефанаваць па нумарах: **74-53-40, 74-53-45, 74-68-41** альбо **102**.

**Сяргей БАРТОШ,
дзяржаўтаінспектар
Маладзечанскай ДАІ.**

ВЫБАРЫ – 2014

# Рэгіён: дзе забароненыя пікеты

**Райвыканкамы нашага рэгіёна вызначылі месцы, дзе забараняюцца пікеты для правядзення збору подпісаў для вылучэння кандыдатаў у дэпутаты.**

Гэта норма дзейнічае згодна з Выбарчым кодэксам, дзе, ў прыватнасці, у арт. 61 сказана: "Збор подпісаў выбаршчыкаў можа праводзіцца ў форме пікетавання. Атрыманне дазволу на правядзенне пікетавання для указаных мэтаў не патрабуецца, калі яно праводзіцца ў месцах, не забароненых мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі ўладамі.

## Астравецкі раён

У райцэнтры гэта плошча, абмежаваная вуліцамі Карла Маркса, Ленінская, Камсамольская і тая, якая прылягае да сквера, жылога дома №10 па вул. Ленінская, адміністрацыйнага будынка Астравецкага філіяла аблспажыўсаюза, гасцініцы.

Таксама пляцоўка ля помніка савецкім воінам і партызанам па вул. Маркса, вуліца Маркса ад адміністрацыйнага будынка райвыканкама да помніка воінам і партызанам, вуліцы Усходняя, Берагавая, Казіміра Сваяка.

На вуліцах Кастрычніцкая, Ленінская, Валадарскага на адлегласці менш за 50 метраў ад аб'ектаў гандлю, адміністрацыйных будынкаў арганізацый, устаноў адукацыі, культуры, аховы здароўя. На адлегласці менш за 50 метраў ад тэрыторый культавых будынкаў.

У сельскіх населеных пунктах на адлегласці менш за 50 метраў ад аб'ектаў гандлю, устаноў адукацыі, культуры, аховы здароўя, адміністрацыйных будынкаў арганізацый, тэрыторый культавых будынкаў. На тратуарах і узбочынах магістральных вуліц і дарог, каля помнікаў увекавечвання ахвяр вайны.

## Ашмянскі раён

На адлегласці менш за 50 метраў ад будынкаў органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых прадстаўнічых, выканаўчых і распарадчых органаў, суда, пракуратуры, тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва (грамадскі транспарт, прадпрыемствы вода-, цепла- і энергазабеспячэння, установы дашкольнай адукацыі, установы агульнай сярэдняй адукацыі, арганізацыі аховы здароўя.

У месцах, якія ўяўляюць небяспеку для жыцця і здароўя грамадзян, якія перашкаджаюць рабоце арганізацый і руху транспарту.

## Валожынскі раён

На чыгуначных станцыях Валожын і Багданава.

На адлегласці менш за 50 метраў ад будынкаў мясцовых прадстаўнічых, выканаўчых і распарадчых органаў, суда Валожынскага раёна, тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва (грамадскі транспарт, прадпрыемстваў вода-, цепла- і энергазабеспячэння, установы адукацыі і аховы здароўя).

## Вілейскі раён

На чыгуначным вакзале ў Вілейцы, на аўтавакзале Вілейкі.

На адлегласці менш за 50 метраў ад будынкаў мясцовых прадстаўнічых і распарадчых органаў, суда, пракуратуры, тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва (грамадскі транспарт, прадпрыемствы вода-, цепла- і энергазабеспячэння, установы дашкольнай адукацыі, установы агульнай сярэдняй адукацыі, арганізацый аховы здароўя).



Фота m.knews.kg

**Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў 27-га склікання будзе доўжыцца да 10 лютага. Адзін са спосабаў – праз збор подпісаў.**

## Маладзечанскі раён

На аб'ектах чыгуначнага транспарту, на адлегласці менш за 50 метраў ад будынкаў мясцовых прадстаўнічых, выканаўчых і распарадчых органаў, суда Маладзечанскага раёна, пракуратуры Маладзечанскага раёна, тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва (грамадскі транспарт, прадпрыемствы вода-, цепла- і энергазабеспячэння, установы адукацыі).

На адлегласці менш за 200 метраў ад будынкаў, збудаванняў, у якіх знаходзіцца рэдакцыі рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі і арганізацыі, на якія ўскладзены функцыі перадачы тэлевізійных і радыёвяшчальных праграм.

На Цэнтральнай плошчы Маладзечна, у раёнах размяшчэння рынкаў: райспажыўтаварыства (вул. Хмяльніцкага), СТАА "Ганлёва-будаўнічая кампанія" (вул. Міра, д.3).

## Мядзельскі раён

На адлегласці менш за 50 метраў ад будынкаў мясцовых прадстаўнічых, выканаўчых і распарадчых органаў, мядзельскага суда, пракуратуры Мядзельскага раёна, тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва (грамадскі транспарт, прадпрыемствы вода-, цепла- і энергазабеспячэння, установы дашкольнай і сярэдняй адукацыі, установы аховы здароўя).

На чыгуначных станцыях Княгінін і Будслаў, аўтавакзалах "Мядзел", "Нарач" вытворча ўчастка Мінаблаўтатранса.

## Смаргонскі раён

Такія месцы вызначаныя ў райцэнтры. Гэта плошча Леніна, вул. Леніна ад пачатку да перакрыжавання з вул. Чырвонаармейскай, вул. Савецкая ад пачатку да перакрыжавання з вул. Кутузава.

**Аддзел інфармацыі.**

КАДРЫ

# Пашыраць аддзел па надзвычайных сітуацыях

**АСТРАВЕЦ. Колькасць асабовага складу Астравецкага падраздзялення па надзвычайных сітуацыях у 2014 годзе павялічыцца больш, чым на траціну.**

Пра гэта паведаміў начальнік Гродзенскага абласнога ўпраўлення МНС **Сяргей Шпарло**. Цяпер бяспеку Астравеччыны забяспечваюць 112 байцоў раённага аддзела па НС.

Цягам года штатную колькасць аддзела павялічаць на 42 чалавекі.

Бліжэй да ўводу ў эксплуатацыю атамнай электрастанцыі, у Астраўцы плануюць пабудаваць самастойнае пажарнае дэпо. Тым часам канцэпцыя забеспячэння бяспекі будучай АЭС яшчэ распрацоўваецца.

**Аддзел інфармацыі.**

СВЯТА

# МНС – 15 гадоў

**МАЛАДЗЕЧНА. 19 снежня выратавальнікі краіны адзначаюць сваё прафесійнае свята. Сёлета органы і падраздзяленні па надзвычайных здарэннях святкуюць свой 15-гадовы юбілей.**

Выратавальнікі заўсёды гатовыя супрацьпаставіць разбуральнаму агню і стыхіі сваё майстэрства, каб прыйсці на дапамогу тым, хто трапіў у бяду і каму патрэбная абарона.

Нездарма дэвіз Міністэрства: прафесіяналізм, адвага, гонар!

Ліквідацыя надзвычайных здарэнняў – цяжкая праца, звязаная з рызыкай і небяспекай. Работнікі органаў і падраздзяленняў з гонарам ахоўваюць жыцці людзей.

Падчас здарэнняў у адным шэрагу са штатнымі выратавальнікамі стаяць спецыялісты пазаштатных аварыйна-выратавальных службаў, такіх як ЖКГ, электрасеткі, газавая служба, таварыства ратавання на водах і іншыя. Тым часам каардынуе іх дзеянні камісія па надзвычайных здарэннях пры гарвыканкаме. Таму Дзень выратавальніка – наша агульнае свята.

Кіраўніцтва аддзела ганарыцца сваімі работнікамі і дзякуе ім за працу, высакародства, уменне супераджываць, дапамагаць людзям.

Няхай у вашым доме заўсёды будзе мір і згода, шчасце і радасць, а таксама спакой, сагрэты радасцю і любоўю адзін да аднаго.

**Вячаслаў ГРЫНЬ, начальнік Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях.**

## Папраўка

Мінскі абласны драматычны тэатр удакладняе: святочны вечар **Сяргея Карзея**, прысвечаны яго 55-годдзю, адбудзецца ў суботу, 18 студзеня, а 18 гадзіне.



# Як знайсці выбарчыя камісіі

**Ад 12 студзеня пачалося вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў 27-га склікання. Яно будзе доўжыцца да 10 лютага ўключна, паведамляе БелТА. Як знайсці выбарчыя камісіі ў нашым рэгіёне?**

## Астравецкі раён

Раённая камісія знаходзіцца па адрасе: Астравец, вул. Карла Маркса, д. 2. Тэл. 8-01591-21224, факс 20962. Старшыня **Свірыд Эдуард Іванавіч**.

## Ашмянскі раён

Раённая камісія знаходзіцца па адрасе: Ашмяны, вул. Савецкая, д. 103. Тэл. 8-01593-43214, факс 45525. Старшыня **Юнашка Ала Іосіфаўна.**

## Валожынскі раён

Раённая камісія знаходзіцца па адрасе: Валожын, пл. Свабоды, д. 2, каб. 406. Тэл. 8-01772-54373, факс 55286. Старшыня **Махніцкая Людміла Аляксандраўна.**

## Вілейскі раён

Раённая камісія знаходзіцца па адрасе: Вілейка, вул. Партызанская, д. 40. Тэл. 8-01771-54830, 55161, факс 56703. Старшыня **Чайкоўская Валянціна Мікалаеўна.**

## Маладзечанскі раён

Раённая камісія знаходзіцца па адрасе: Маладзечна, вул. Вілейская, д. 6, каб. 230. Тэл. 8-0176-774559, факс 772818. Старшыня **Юрчык Святлана Васільеўна.**

## Мядзельскі раён

Раённая камісія знаходзіцца па адрасе: Мядзел, пл. Леніна, д. 1, каб. 17. Тэл., факс 8-01797-54775. Старшыня **Берняковіч Леанід Сцяпанавіч.**

## Смаргонскі раён

Раённая камісія знаходзіцца па адрасе: Смаргонь, вул. Леніна, д. 5. Тэл. 8-01592-32698, 35051, факс 32316. Старшыня **Захарыч Раіса Іосіфаўна.**

## Абласныя камісіі

Гродзенская абласная: Гродна, вул. Ажэшкі, д.3. Тэл. 8-0152-735549, факс 730522. Старшыня **Саўко Валерый Іосіфавіч**.

Мінская абласная: Мінск, вул. Энгельса, д.4, каб. 115. Тэл. 8-017-5004177. Старшыня **Васільеў Аляксей Аляксандравіч.**

**Аддзел інфармацыі.**

# SPKava: “Выбар мовы беларускай не стаяў”



Фота забяспечана Юрыем КАСЦЕНЕМ.

Рэпер з Вілейкі Юры Касцень, вядомы як SPKava.

**ВІЛЕЙКА. Віляйчанін Юры Касцень, вядомы ў музычным свеце як SPKava, стварае беларускую музыку, піша беларускі рэп і спрабуе зрабіць яго па-сапраўднаму аўтэнтычным, дадаючы не ўласную яму дуду.**

– Усё пачалося, калі яшчэ хадзіў у першы ці другі клас, – распавядае SPKava. – Хацеў пайсці ў музычную школу і іграць на скрыпцы. Чаму менавіта на скрыпцы, я ўжо і не памятаю, магчыма, “Сымона-музыку” прачытаў. Праўда, бацькі мяне не пусцілі, а дзядзька на дзень нараджэння падарыў гармонік. На гэтым, у прынцыпе, усё і скончылася. Пасля запастуова прыдбаў сабе гітару, а потым разам з **Яўгенам Батурлем**, з якім разам вучыліся, пачалі пісаць у Вілейцы рэп-песні. Нам тады было гадоў па 16.

Так Яўген і Юры сталі S'viedak і SPKava і з'явіўся гурт “PANaNieba”. Доўгі час музыкі-самавучкі пісалі песні разам.

– Прыехалі ў Мінск, пачалі рабіць першыя запісы, з'явіліся першыя канцэрты, – прыгадвае SPKava. – Прычым наша першае выступленне ў Мінску было на рэп-фестывалі “Quick stile cup”. Тады там выступаў “Баста”. Ніякага месца мы не занялі, але гэта ўсё адно быў вялікі прарыў. Звычайна на гэты фестываль падавалі больш за 200 заявак, і трапіць у невялікі спіс выступоўцаў ужо было перамогай.

**– Ці стаяў перад вамі выбар, на якой мове выконваць песні?**

– Для нас тут выбар не стаяў. Першапачаткова па-беларуску і ўсё. Мы тады за мэту ставілі, каб нашы песні па-беларуску загучалі так, нібыта гэта песні па-французску ці на любой іншай мове. Каб менавіта ўзровень дацягваў. Відаць, праз тое і прыйшлі да прафесійных заняткаў музыкай. Навучанне ў школе, дарэчы, таксама спачатку ішло па-беларуску. У нас быў беларускамоўны клас, праўда, нядоўга. Пасля гэта ўсё скасавалі. Потым скончыў ВНУ, па адукацыі – выкладчык беларускай мовы і літаратуры.

Цяпер гурт “PANaNieba” фактычна не існуе. SPKava – сольны праект.

– Мы зрабілі перапынак, таму што знаходзімся ў розных краінах. S'viedak ужо доўгі час жыве ў Маскве. Ужо калі мы запісвалі альбом “71”, ён быў там і ўсё рабілася на адлегласці. Аднак гурт павінен існаваць разам, канцэрты павінны быць, а не адмяняцца. Песні павінны пісацца разам. Мы не ставілі кропку. Мы проста не ведаем, што будзе. А раптам ужо заўтра сустрэнемся і запішам новы дыск.

**Альбом “71” выйшаў 30 снежня 2011 года. Назва – дзве апошнія лічбы тэлефоннага кода горада Вілейкі, адкуль родам “PANaNieba”.**

– Я доўгі час думаў, што мне рабіць далей, – прызнаецца SPKava. – Я больш не магу не займацца музыкай, не ўяўляю жыцця без яе. За гэты час прыйшоў да таго, што больш падабаецца рабіць музыку, чым пісаць словы. Мой сольны праект стаў пераломным, ён цалкам адрозніваецца ад таго, што я рабіў раней. Гэта ўжо іншы персанаж, які склаўся ўва мне. Далей буду толькі яго развіваць.

Напрыканцы года SPKava ўвайшоў у шортліст намінантаў на прэмію “Героі года” ад партала Тузін Гітоў.

**– Што значыў удзел у гэтым фестывалі?**

– Гэта надало ўпэўненасці ў сабе. Дзіўна, але тое, што я раблю, усприамаецца слухачамі. Я быў упэўнены, што не атрымаю ўзнагароду, але для мяне было вялікай нечаканасцю, што я трапіў у спіс намінантаў.

**1 лютага ў Мінску ў галерэі “Цэх” пройдзе музычны марафон, у якім бярэ ўдзел SPKava. Ён будзе доўжыцца 12 гадзін. Удзельнікі: J:морс, ili-ili, Navi, Naka Piano, Hurma, “Нагуаль”, Паліна Рэспубліка, Zui, Сяргей Пукст, Rahis, BosaeSonca, Pawa, Martin S. Уваход на канцэрт будзе вольны.**

**– Чаму SPKava?**

– Гэта самы распаўсюджаны наркотык, які ўжываюць нават дзеці. Калі сур'ёзна, проста “спадар Кава”.

Сёння SPKava мае выдадзены міні-альбом “Што табе сніцца”. У яго ўвайшлі чатыры кампазіцыі: “Пяць будзільнікаў”, “Што са мной”, “Што табе сніцца” ды “Апошні шанец”.

– Запісана больш, чым ёсць на гэтым дыску, – кажа музыка. – Большасць песень ідуць у шуфляду і нікому не паказваюцца. Каб песню пачулі, я павінен сам быць упэўнены ў ёй. Павінен адчуваць, што гэта менавіта тое, што я хацеў зрабіць. Не заўжды так атрымліваецца. Часам мне не падабаецца сцягванне, зробленае на студыі. Часам я ўяўляю песню не такой, якой яна ў выніку атрымліваецца. Такія песні адкладаюцца на некаторы час. Зараз пішу новыя песні, збіраю альбом. Але гэта адбываецца павольна, таму што хочацца зрабіць штосьці эксперыментальнае. Каб гэта быў не проста рэп, а каб там было штосьці незвычайнае. Тыя ж эксперыменты з дудой. Яе гучанне зусім не ўласцівае рэпу. Хочацца спрабаваць, рабіць штосьці аўтэнтычнае, беларускае.

**– Ці ёсць складанасці з запісам музыкі?**

– Цяпер зрабіць запіс у пэўным сэнсе вельмі лёгка, таму што шмат хатніх студый, дзе хлопцы робяць усё досыць якасна. Апошнія запісы рабіў на студыі гурта “Нестандартны варыянт”. Мне вельмі падабаецца працаваць з KamaZam, ён рабіў сцягванне Максу Каржу. Падабаецца гук, які ў выніку атрымліваецца.

**– Як лічыш, ці ёсць у краіне годныя музычныя пляцоўкі?**

– У нас з музыкай увогуле не проста. Адносіны да гэтай сферы не вельмі сур'ёзныя. Пляцовак фактычна няма. Калі мы ўпершыню выступалі з “PANaNieba” на фестывалі “Басовішча” ў Польшчы, для нас было вельмі дзіўным, што да нас ставяцца як да артыстаў. Тут, калі ладзіш канцэрт у клубе, трэба сто разоў бегаць за “гукачом”, каб ён зрабіў нармальны гук. Ён звычайна адказвае так: “Усё будзе нармальна, я за пяць хвілін Алу Барысаўну настройваў”.

У Польшчы ж бегалі за намі, падносілі мікрафоны. Акрамя таго, што там апаратура больш якасная і музычная сфера больш развітая, яшчэ і адносіны зусім іншыя. Там сапраўды адчуваеш сябе артыстам. Тут такога адчування ты з большасці пазбаўлены, бо трэба ўсё рабіць самому, самому і самому. Я першапачаткова ведаў, што мая аўдыторыя будзе невялікая, таму што сама музыка дзіўнаватая. Яна не вясёлая, не тая, пад якую можна танцаваць. Яна хутчэй сумная, і ў яе трэба ўслухоўвацца. Гэты настрой перадае мой унутраны свет. Тое, што ў песнях, гэта рэальныя гісторыі альбо гісторыі з маёй падсвядомасці.

**Даведка “РГ”. Юры Касцень.** Музычны псеўданім – SPKava. Нарадзіўся ў Вілейцы. Скончыў вілейскую сярэднюю школу №3. Паступіў у Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка на спецыяльнасць “Беларуская мова і літаратура. Журналістыка”.

**Настасся РОЎДА.**

**Паслухаць кампазіцыі рэпера SPKava можна на сайце Rh.by**

КОНКУРСЫ

# Дарыя: “Вельмі рада, што на “Еўрабачанне” паедзе “Тэа”



Фота забяспечана прадзюсерскім цэнтрам “Спамаш”.

Дарыя.

**ВІЛЕЙКА. У мінулую пятніцу, 10 студзеня, прайшоў фінал Нацыянальнага адборачнага тура міжнароднага конкурсу песні “Еўрабачанне-2014”.**

Сярод 14 удзельнікаў выступала спявачка, жыццё якой звязана з нашым рэгіёнам – Дарыя. Яна жыла ў Вілейцы, вучылася ў Маладзечанскім музычным вучылішчы.

У 2000 годзе **Дар'я Урызчанка** (такое яе сапраўднае імя) заваявала Гран-пры рэгіянальнага конкурсу эстраднай песні “Адна зямля” ў Валожыне.

А ў фінале Нацыянальнага адборачнага тура Дарыя прадставіла кампазіцыю “Starlight”. Па выніках галасавання гледачоў і журы артыстка прадзюсерскага цэнтра “Спамаш” падзяліла восьмае і дзявятае месцы з гуртам Napoli.

Сваімі ўражаннямі пра конкурс спявачка падзялілася з чытачамі “РГ”.

**– Якія ўражанні засталіся ад нацыянальнага адбору на “Еўрабачанне”?**

– Уражанні розныя: адчуванне недасказанасці і таго, што зрабіла не ўсё, на што здольная. Але ў той жа час ёсць разуменне, што не ўсё залежыць ад мяне, калі знаходзішся на сцэне і па-за ёй.

**– Для вас гэта другі нацыянальны адбор на “Еўрабачанне”. Ён чымсьці адрозніваўся ад першага?**

– Вядома. Па-першае, песня была абсалютна з разраду песень-пераможцаў: па тэме, складанасці, філасофіі, менталітэту. Па-другое, адчувала, што мне як быццам нешта ці нехта дапамагае. Гэта значыць, нават калі штосьці з задуманага не атрымлівалася, то адразу знаходзілася іншае рашэнне, і я разумела, што яно – адзінае правільнае і так павінна быць.

**– Колькі часу заняла падрыхтоўка да выступлення на адборы?**

– Гледзячы які з блокаў разглядаць. Але ў цэлым, крыху больш за месяц.

**– Ці будзеце яшчэ спрабаваць пакараць “Еўрабачанне”?**

– Так.

**– Ваша меркаванне аб пераможцы адбору – Тэа?**

– Тэа (Юры Вашчук) – мой аднадумца, калега, сааўтар адной з маіх песень “Толькі твая” (“Only your's”). Да таго ж выдатны музыкант, аранжыроўшчык, артыст. Я вельмі рада, што на “Еўрабачанне” ў Данію ад Беларусі паедзе менавіта ён. Ён выдатны ў сваёй натуральнасці. Жадаю яму перамогі! P. S. Магу нават на бэк-вакале праспяваць (шэптам).

**– А ці адчувалі падтрымку на конкурсе ад жыхароў Вілейкі, Маладзечна?**

– Так. Гэты год вельмі адрозніваецца ў тым ліку і адчуваннем людзей, хоць яны і не знаходзяцца ў полі майго зроку. Гэта чароўна. Так што вельмі правільна, калі тэлегледачы падтрымліваюць сваіх: артыстаў, спартсменаў, аднадумцаў, сяброў...

**– Чым далей будзеце займацца?**

– Цяпер трэба дарабіць відэа “Starlight”, давесці яго да паўнавартаснага кліпа, запісаць рускамоўную версію. Да таго ж, у працы дзве новыя песні ўласнага сачынення. Праца кіпіць!

Карыстаючыся магчымасцю, я ад усяго сэрца дзякую вам за падтрымку і вінншую кожнага, хто цяпер чытае гэтыя радкі. З новым 2014 годам! Жадаю, каб вы ўвесь час адчувалі цёплую хвалю натхнення, шанцавання і дабра. Моцнага вам здароўя, міру і, вядома ж, бязмежнага кахання ў сэрцы. Ваша Дарыя.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ АДУКАЦЫЯ

# Вы былі ў маўзалеі? Дык вось, там чэргі меншыя

**МАЛАДЗЕЧНА. Да нас у рэдакцыю звярнуўся бацька аднаго з вучняў СШ №14. Менавіта з чэргамі ў маўзалей ён параўнаў чэргі, якія збіраюцца ля школы па раніцах. Віной гэтаму ўсталяваныя турнікеты.**

Раніцай чарговага працоўнага дня, 15 студзеня, падыходжу да школы. На ганку насамрэч натоўп. Першакласнікі тузаюць сваіх мам за рукі і задаюць толькі адно пытанне: "Мам, а ты картку ўзяла, не забылася?"

Мамы даводзяць дзяцей да турнікету, укладаюць картку ў руку, затым падыходзяць да вокнаў школы і, прыклаўшы рукі да шыбы, глядзяць туды, быццам у акварыум.

Нейчы бацька хваліцца астатнім:

– Во, мой нарэшце прайшоў.

Затым, плюнуўшы на ганак, адыходзіць, хаваючы замерзлыя рукі ў кішэні. Заўважаючы мяне з фотаапаратам, спыняецца на хвілінку, разгублена ўсміхаецца, паціскае плячыма і кажа: "Ідыятызм нейкі".

Натоўп на ганку менш не становіцца, а між іншым, на гадзінніку ўжо 7.56.

Спыняю яшчэ аднаго бацьку, якому пашчасціла да званка перадаць сваё дзіця ў рукі настаўнікам. **Віктар** гаворыць:

– Мы цяпер выходзім раней. Вырашылі, што, калі прыйсці раней, можна хутчэй прайсці праз турнікеты. Дзе там! За 20 хвілін да пачатку ўрокаў чарга была аж да стадыёна.

На гадзінніку без адной хвіліны восем. На ганку сустракаюцца, відаць, два аднакласнікі, вучні класа 9-10.

– Ты што, у школу?

– Так.

– Дык тут яшчэ чалавек дзесяць. Можа, ну яе?

– А ў цябе дома хтосьці зараз ёсць?

– Не.

– Тады да цябе?

– Пайшлі.

І дзве постаці растварыліся ў шызай ранішняй імгле...

Падыходжу на дзвюх мам.

– Адна, хаваючыся ад камеры, проста адказвае: "Пажывём-пабачым".

Маці другакласніка **Юлія** пагаджаецца распавесці, як ставіцца да ўвядзення ў школах прапускной сістэмы:

– Такія ранішнія чэргі – гэта кашмар. Мы жывём ад школы ў пяці хвілінах хадзьбы. Але мусім выходзіць за пятнаццаць. Зараз ужо дзявятая гадзіна, а дзіця толькі выйшла з гардэроба. Яшчэ адзін мінус – гэта карткі. У партфель яе не пакладзеш. Бо яна не спрацуе. Трэба класці дзіцяці ў кішэню. Не дай бог яна згубіцца, тады што? Я лічу, што гэта непатрэбны галаўны боль. Ну калі гэта выратуе нашых дзяцей ад чагосьці, то добра. Але трэба шукаць іншы падыход.

Сітуацыю пракаментавала намесніца начальніка Маладзечанскага аддзела адукацыі **Соф'я Філістовіч**:

– Ніякай праблемы тут няма. Сістэма толькі пачала працаваць. Тыдзень-другі, і ўсё ўвойдзе ў звыклае рэчышча. Дайце час дзецям прызвычаіцца да картак.

**Наталля ТУР.**


Фота Наталлі ТУР.

**Раніца 15 студзеня. Зранку сцюдзёна. Вучні і бацькі яшчэ тоўпяцца на ганку.**

УСПАМІНЫ

# Як Васіля Шаранговіча хрысцілі:

## кум і кума забылі імя, што выбрала мама

**МЯДЗЕЛ. На гэтым тыдні споўнілася 75 год народнаму мастаку Беларусі, творцу ў галіне кніжнай і станковай графікі Васілю Шаранговічу.**




Фота забяспечана Васілём ШАРАНГОВІЧАМ.

Васіль Шаранговіч за працай на сваёй сядзібе. 2008 год.

Ён – ураджэнец вёскі Качаны на Мядзельшчыне. Цікавую гісторыю пра сваё хрышчэнне Васіль Шаранговіч расказаў у аўтабіяграфічнай аповесці "Ген жыцця":

"Калі была разгорнутая мая кніга жыцця, дакладна невядома. Мама казала, што пад Новы, 1939, год па грыгарыянскім календары, а хрышчаны я быў якраз на Новы, 1939, год па старым стылі, тады ж і запісалі днём нараджэння 14 студзеня 1939 года. Гэта значыць, нарадзіўся я за польскім часам, як у нас любілі гаварыць, бо ў верасні таго года прыйшла савецкая ўлада.

***

Не магу не ўспомніць прыгодаў, звязаных з маім хрышчэннем і з іменем, якое я атрымаў на ўсё жыццё, пра што пазней распавядала мама.

Па вясковай звычцы, перад тым як адвезці дзіця ў царкву для хрышчэння, у хату бацькоў з'язджаліся і сходзіліся госці, каб адзначыць гэтую падзею. Наша царква знаходзілася ў вёсцы Мікасецк, што за шэсць кіламетраў ад Качаноў.

Зіма выдалася ў той год халоднай, снежнай і непрыветлівай. Кум і кума, а гэта дзядзька Пётра і цётка Ганна, пасля першай часткі застолля едуць у царкву, узяўшы, напэўна, добрую чарку. У мамы перад тым была праблема, якое даць імя сыну. Звыклыя вясковыя імёны Мікіта, Іван, Лявон, Міхал ёй не падабаліся, хацелася даць першынцу незвычайнае імя, каб такога не было ва ўсёй акрузе. З нейкай кніжкі яна вычытала імя Генадзь, тады не распаўсюджанае ў вёсках, і вырашыла так мяне назваць.

Ехаць да царквы было далекавата, імя дзіцяці павінны былі даць па тым часе даволі рэдкае і цяжка запамінальнае, а запісаць яго не дадумаліся, ды можа, і не было на чым. І трэба ж было такому надарыцца, што кум і кума за дарогу яго забылі, аб чым паведамілі мікасецкаму бацюшку. Што ж рабіць? Зіма, на дварэ мяцеліца, кругом усё завеяна снегам, стаіць вялікі мароз; а тут немаўля і дарога не блізкая, каб яшчэ раз з'ездзіць і перапытаць. Сапраўды, як дрэнна, што ў тыя часы не было тэлефоннай сувязі, дзякуючы якой можна было б пазбегнуць памылкі!

Айцец Пятро Пароменскі супакоіў разгубленых дзядзьку і цётку, сказаўшы, што выйсце ёсць: сёняшні дзень, 14 студзеня, па царкоўным календары з'яўляецца днём святога Васіля Вялікага. І прапанаваў даць хлопчыку імя Васіль. Дзядзька Пётра і цётка Ганна згадзіліся:

– А што, неблагое імя, не горшае за іншыя.

Але яны не ўлічылі, якія сямейныя наступствы ў хуткім часе, а менавіта па вяртанні ў дзедаву хату, выкліча гэта іх рашэнне, аб чым я раскажу пазней.

З другога боку, а што было ім рабіць – не замарозіць жа дзіця, ды і вярнуцца з няхрышчаным нельга. Госці ў хаце, многія прыехалі здалёк, ужо даўно адзначаюць такую важную вясковую падзею.

...Айцец Пётр даў мне імя Васіль і дзядзька Пётра з цёткай Ганнай па лясной заснежанай дарозе прыехалі да дзедавай хаты. Перадаўшы маці хрышчанае дзіця і нічога не сказаўшы пра імя, яны далучыліся да агульнага застолля, якое прадаўжалася і ў час іх адсутнасці.

Маці паклала сына ў ложачак-качалку (дарэчы, зробленую бацькам), а сама пайшла да гасцей, узрадаваная, што хрышчэнне прайшло ўдала і сынок, нягледзячы на такую неймаверную сцюжу, вярнуўся да яе жывы і здаровы. Яна была ўпэўненая, што ён ахрышчаны жаданым іменем.

Праз нейкі час малы прачнуўся і заплакаў. Маці стала яго калыхаць, прыгаворваючы: "Ціха, ціха, Гена, Геначка". Тут цётка Ганна мусіла ва ўсім прызнацца:

– Ніна, дык яго ж не Генам зваць, а Васілём.

Яна падышла да маці і расказала ўсё, як было на самой справе, назваўшы сапраўднае імя яе сыночка, бо ўсё роўна памяняць нічога ўжо было немагчыма.

Маці ад нечаканасці ў роспачы голасна ўсклікнула:

– Во, яшчэ адзін Васіль-баран вырасце!

У гэты момант сусед Васіль Бабровіч устае з-за стала разам з жонкай і дэманстратыўна пакідае застолле з кроўнай крыўдай, бо яго ж вось так у вочы бараном ніхто не называў. І гэта крыўда і варожасць суседа доўжыліся больш за дваццаць гадоў. Хто ж мог ведаць, што неасцярожны выраз прывядзе да такіх адносін паміж блізкімі суседзямі, бо дзедава хата і Васіля Бабровіча стаялі насупраць адна адной цераз вуліцу.

Тут неабходна даць тлумачэнне, што ж такое адбылося. Уся справа ў тым, што Васіль Бабровіч меў вясковую мянушку Васіль-баранчык, а перайшла гэта мянушка ад ягонага бацькі, якога звалі Васіль-баран, таму ён і быў Баранчыкам. Мянушка была зусім несправядлівая, бо гэта быў чалавек дбайны, працалюбівы і разумны. Нягледзячы на невялікі надзел зямлі, жыў добра, трымаў пчол, адным словам – гаспадар. А мянушку, перададзеную яму ў спадчыну, ён моцна не любіў і страшэнна абураўся, калі яе чуў.

Трэба сказаць, што ў вёсцы практычна ўсе сем'і мелі мянушкі, і многія так звыкаліся з імі, што часцей адгукаліся на іх, чым на свае сапраўдныя імёны, другія ж не любілі і абражаліся.

Дык вось, можна ўявіць сабе, як было сапсаванае свята, пасля якога маці не адзін год называла мяне проста сынком, ну а потым прывыкла, і з маленства я не прыпомню, каб яна клікала мяне неяк інакш, як Вася.

Як маё хрышчэнне адбылося і чаму я стаў "*скаліндаркам*" мне, ужо падлетку, расказала мама, і тая незвычайная прыгода ўрэзалася ў маю памяць на ўсё жыццё.

А варожасць працягвалася, сусед Васіль ніколі не заглядваў у наш двор або хату...

І дзіўную карціну ўбачыў я праз многія гады, у 1959 годзе, прыехаўшы з Мінска, з вучылішча, на канікулы. Як заўсёды, прыйшоў пешкам з Мядзела, а гэта трынаццаць кіламетраў, і, адчыніўшы дзверы ў хату, раптам убачыў за сталом суседа Васіля і свайго бацьку. Яны сядзелі за бутэлькай самагонкі, а маці завіхалася каля печы. Я, павітаўшыся, падсеў да іх. Завязалася агульная гутарка, сусед стаў распытваць пра сталіцу, пра маё жыццё-быццё ў горадзе, пра вучобу і раптам кажа:

– Вось бачыш, Ніна, з твайго сына зусім не баран атрымаўся.

Мне ішоў дваццаць першы год. Добрасуседскія адносіны нарэшце наладзіліся, і больш яны ніколі не псаваліся, а наадварот, сталі блізкімі, сяброўскімі.

Гэты ўспамін пра гісторыю ўзнікнення майго імя навёў на думку, што яна неяк прадвызначыла маё далейшае жыццё, у якім аказалася нямала супярэчнасцяў, барацьбы процілегласцяў. У жыцці, думаецца, не мае значэння, якое імя далі табе бацькі. Бо нездарма ж у народзе кажуць: "Бацькі даюць табе добрае прозвішча, а імя рабі сабе сам". А зрабіць гэта можна толькі праз доўгі, цярністы шлях, упартай працай ды моцнай сілай волі, спавядаючы непахісныя погляды на жыццё і яго каштоўнасці.

Я ўжо згадваў, што чалавек, з'яўляючыся на свет, атрымоўвае ў спадчыну гены сваіх продкаў, можа, і не ў адным калене. Таму аповед свайго жыцця трэба, думаю, пачынаць з тых, хто табе яго даў, а менавіта са сваіх бацькоў.

Бацькі мае ў маладыя гады, мяркуючы па рэдкіх фотаздымках таго часу, мелі прыгожыя, я б сказаў, інтэлігентныя аблічы. У маці былі дробныя, тонкія рысы твару, бацька ж – тыповы беларус з важкім, трохі бульбінай, носам, выразным падбародкам, шырокім квадратным ілбом. У сталыя гады рысы твараў бацькоў, як тыповых беларусаў, яшчэ больш акрэсліліся".

**Паводле аўтабіяграфічнай аповесці "Ген жыцця".**

ПАМЯЦЬ

## 20 гадоў, як не стала Генадзя Каханоўскага

**МАЛАДЗЕЧНА. 15 студзеня 1994 года было 20 гадоў, як пайшоў з жыцця беларускі гісторык, краязнаўца, які ўсё жыццё прысвяціў роднаму Маладзечанскаму краю.**



Фота aifrasjiency.narod.ru

**"Партрэт доктара гістарычных навук краязнаўца Генадзя Каханоўскага". Мастак – Анатоль Крывенка.**

Нарадзіўся ён 8 студзеня 1936 года ў вёсцы Дамашы, што каля Маладзечна. Юначыя гады правёў у Маскве, дзе ачольваў беларускае студэнцкае зямляцтва, сустракаўся там з Уладзімірам Дубоўкам і Міколам Улашчыкам.

Па заканчэнні вучобы вярнуўся ў Маладзечна, працаваў ў абласным краязнаўчым музеі, дзе стварыў экспазіцыю. Як адзначае пісьменнік Уладзімір Арлоў, была адрознай ад шмат якіх замшэлых сталічных, працавала на беларускую нацыянальную ідэю.

У 1969 годзе атэстацыйная камісія прызнала працу маладога гісторыка шкоднай для камуністычнага выхавання савецкіх людзей. Звольненага Каханоўскага аднавілі на працы дзякуючы заступніцтву Максіма Танка і Янкі Брыля, але нападкі на вучонага не спыняліся.

У 1989 годзе спрычыніўся да заснавання Беларускага краязнаўчага таварыства і стаў яго першым старшынёй. У 1992 годзе абараніў першую ў Беларусі доктарскую дысертацыю па крыніцазнаўстве матэрыяльнай і духоўнай культуры нашага народа.

Напісаў і выдаў шэраг кніг па фалькларыстыцы і археалогіі, даследаванні, прысвечаныя Яўстаху Тышкевічу, Адаму Кіркору, Максіму Багдановічу. Вывучаў муры Койданаўскага кальвінскага збору.

Памёр 15 студзеня 1994 года ў Маладзечне, калі яму было 58 гадоў.

**Аддзел інфармацыі.**

ДА 100-ГОДДЗЯ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# Гарматы ператварылі Крэва ў друз...

**З успамінаў ксяндза Міхала Сапоцькі пра наступленне немцаў у 1915 годзе на тэрыторыі нашага краю – Павілля**



Фота забяспечана Яўгеніяй Чаплінскай.

**Дом у Юшаўшчыне, цяпер Валожынскі раён, у якім нарадзіўся Міхал Сапоцька. Сёння ён вось у такім стане.**

*Заканчэнне. Пачатак у №2.*

**Пад вечар страляніна ўзмацнілася, асабліва грымела артылерыя рускіх; снарады пераляталі праз Табарышкі з прарэзлівым свістам.**

Вечарам немцы занялі плябанію і засталіся тут на ноч; артылерыя замоўкла, затое вінтовачныя выстралы не сціхалі ўсю ноч. Раніцай 8 верасня, у свята Нараджэння Багародзіцы, выстралы чуваць былі ўжо некалькі далей, праз мястэчка падалася нямецкая артылерыя.

Набажэнства адслужыў я ў звыклую пару. Адчуваў я сябе асабліва змучаным і слабым. Тры дні яшчэ грымелі паблізу гарматы; на трэці дзень падаўся ў суседнія вёскі, якія найбольш пацярпелі ад вайны.

Бачыў страшную апустошанасць, наведаў старэнькіх Партылаў у Памярэчы. Бедныя сядзелі толькі з духам: немцы забралі ўсё. Назаўтра вечарам прыбыў на плябанію эскадрон кавалерыі пад камандай сяржанта, занялі стайню і каня ксяндза далучылі да сваіх. Хлопца, што супрацьўляўся, пабілі. Нягледзячы на пратэсты, каня прывёў сабе сам сяржант, пакінуўшы нейкую старую каніну.

У нядзелю, 13 верасня, зноў затрымаўся на ноч абоз. Салдаты рабавалі, не звяртаючы ўвагу на нібыта забарону афіцэра. Назаўтра трэба было ехаць у Ашмянку, запрэглі пакінутую немцамі клячу, але не паспеў я выйсці на дзядзінец, як на той воз сеў немец і хутка выехаў са двара.

Затрымаў яго, крычаў, але нічога не дапамагло: забраў каня з яўрэйскімі калёсамі і вупражжу дзякуй. Да Ашмянкі давялося дабірацца пешшу. Па дарозе цягнуліся караваны абозаў, але мяне не затрымлівалі.

У Ашмянцы знайшоў вялікае зруйнаванне: плябанія апустошаная, дзверы, вокны павыдзіраныя, унутры мэбля паламаная, зямля зрытая снарадамі, якія густа падалі каля касцёла і плябаніі, аднак сцен не пашкодзілі.

Тутэйшы ксёндз са службай і роднымі на працягу трох дзён сядзеў у акопах пад градам рускіх і нямецкіх куль. Перад адступленнем ар'ергард казакоў зрабіў страшнае спусташэнне, пагражалі смерцю ксяндзу і яго родным, калі не дадуць грошай. Мусіў бядак аддаць апошнія 80 рублёў, з якіх пакінулі яму толькі на пражытак. Пайшлі паглядзець на поле бітвы: акопы рускіх фундаментальныя, каля іх безліч слядоў ад узрываў снарадаў. Нямецкія акопы да атакі менш практычныя; каля іх некалькі магіл са свежымі слядамі людской крыві.

Назаўтра, вяртаючыся дамоў, убачыў на касцельным муры аб'яву аб пакаранні смерцю некага Маркоўскага за абрыў тэлефонных правадоў. На другі дзень наведаў нас ксёндз дэкан, які расказаў аб жудасных дзеяннях над раненымі, прывезенымі з-пад Клевіц у яго на плябаніі. Гарматы ўсё яшчэ грымелі на ўсходзе пад Крэвам, якое ператварылі ў друз і папялішча.

**Міхал САПОЦЬКА.**
**Пераклад з польскай Яўгеніі Чаплінскай.**

МУЗЕІ

# Трафей з Берліна

**ВІЛЕЙКА. Хоць будынак Вілейскага краязнаўчага музея зараз зачынены на капітальны рамонт, але ўсё роўна працягнем знаёміць вас з цікавымі прадметамі, якія тут захоўваюцца.**

Сёння размова пойдзе пра прыгожы насценны гадзіннік. Пра гісторыю яго з'яўлення ў музеі расказвае старшы навуковы супрацоўнік **Вольга Коласава**:

– Гэты гадзіннік выраблены адной знакамітай французскай фірмай, дзесьці ў сярэдзіне дзевятнаццатага стагоддзя. А прывёз яго на Вілейшчыну ў маі 1945 года **Іван Ціханавіч Карыцька** з вёскі Баранцы. Закончыў ён вайну ў Берліне, а калі вяртаўся да дому, захапіў у якасці трафея вось гэты гадзіннік.

Калі мы даведаліся, што ёсць такі адметны гадзіннік, вельмі доўга ўгаворвалі Івана Ціханавіча (зараз ветэрана ўжо няма ў жывых), каб перадаў яго ў музей, што будзем расказваць і паказваць яго наведвальнікам.

Ён доўга не пагаджаўся, але потым сказаў: "Ну добра, забірайце, толькі купіце мне сучасны гадзіннік, каб быў з боем". Справа ў тым, што кожную гадзіну і паўгадзіны гучыць прыгожы меладычны звон гадзінніка.

Напэўна, бой гадзінніка напамінаў ветэрану пра страшныя падзеі Вялікай Айчыннай вайны і светлае свята Перамогі, якое ён сустрэў у Берліне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Трафейны гадзіннік.**

КАЛЯНДАР

**17 студзеня.** 130 гадоў з дня нараджэння Сяргея Гарадзецкага (1884 – 1967), рускага паэта, перакладчыка твораў Я. Купалы і Я. Коласа.

***

**110 гадоў** з дня нараджэння Алеся Якімовіча (Аляксандра Іванавіча, 1904 – 1979), беларускага пісьменніка, аднаго з заснавальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974) за аповесці "Адкуль ліха на свеце", "Канец сервітуту" і "Кастусь Каліноўскі".

***

**19 студзеня.** 110 гадоў з дня нараджэння Андрэя Валынца (1904 – 1965), аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў патрыятычнага падполля і партызанскага руху на тэрыторыі Вілейскай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза. Нарадзіўся ў вёсцы Жаўткі Вілейскага павета Віленскай губерні, цяпер Вілейскі раён. У 1926-м скончыў палкавую артылерыйскую школу ў Нова-Вілейцы. З 1934 года – член падпольнай Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. У 1935-39 гадах быў зняволены ўладамі Польшчы, сядзеў у Вілейскай турме, затым у сумнавядомых Лукішках. З кастрычніка 1943 года – камандзір партызанскай брыгады "За Савецкую Беларусь". Пасля вайны працаваў на адказных пасадах у Вілейскім, Маладзечанскім райвыканкамах, аблвыканкаме.

***

**20 студзеня.** 130 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Сянкевіча (1884 – 1938), беларускага пісьменніка, публіцыста, вучонага, дзяржаўнага і партыйнага дзеяча Беларусі. Быў неаднаразова выведзены ў літаратурных творах: Я. Коласам, як Алесь Садовіч у трылогіі "На ростанях" і як прававобраз Бас-Грэнкі ў п'есе "Забастоўшчыкі", А. Фадзеевым, як доктар Сташынскі ў рамане "Разгром".

***

**1960 год.** Скасаваная Маладзечанская вобласць, а Вілейскі і Мядзельскі раёны далучаныя да Мінскай вобласці.

***

**22 студзеня.** 25 гадоў назад (1989) Савет Міністраў БССР прыняў пастанову "Аб увекавечанні памяці ахвяр масавых рэпрэсій 1937 – 1941 гг. у лясным масіве Курапаты".

***

**50 гадоў** таму (1964) галоўнакамандуючым ВМФ СССР зацверджаны акт здачы ў эксплуатацыю сістэмы "Антэй" (каля Шалавічаў). Будаўніцтва яе вялося ў 1959 – 1963 гадах.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ДЭМАГРАФІЯ

# Дар'і, Ксеніі, Арцёмы і адзін Оскар-Васіль

**У якім месяцы ў Маладзечанскім раёне нарадзілася больш дзяцей, чаму на Мядзельшчыне летась было больш шлюбаў, якое імя на Валожыншчыне трымаецца штогод у ліку папулярных? Пра ўсё гэта і многае іншае.**

### Маладзечанскі раён

Летась у Маладзечанскім раёне нарадзіліся 1782 дзіцяці (з іх 1325 – у Маладзечне). Гэта на 134 больш, чым пазалетась. Самы ўраджайны на дзяцей месяц – кастрычнік. Тады прыбавілася іх 168.

Памерлі 1834 чалавекі (на 112 менш).

Шлюбаў у тым годзе зарэгістравана больш – 1292 (у 2012 годзе – 1199). Найбольш пар вырашылі узяць шлюб ў жніўні – 211, а найменш – у снежні, толькі 28. Сярод замежнікаў, з якімі заключалі шлюбы, пераважна грамадзяне Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі. Але і былі госці з досыць далёкіх краін – як Перу.

Летась нарадзілася больш хлопчыкаў (929), дзяўчынак – 853.

Спіс самых папулярных імён у дзяўчынак узначальвае Дар'я. Яго атрымалі 57 юных жыхарак Маладзечаншчыны. Ксеніяў пабольшала на 47, Сафіяў – на 41, Анастасіяў – на 40, расказала начальнік аддзела ЗАГС **Ала Івашкевіч**.

У хлопчыкаў лідзіруе імя Арцём (53). Далей ідуць Максім (49), Мікіта (47), Іван (44), Уладзіслаў (40).

У 2013 годзе нарадзілася 12 двайнятак і адны трайняткі.

### Смаргонскі раён

– Па горадзе ў нас нараджальнасць перавышае смяротнасць, – кажа начальнік аддзела ЗАГС **Ірына Казакова**. – Але ў цэлым па раёне памерла людзей больш (798), чым нарадзілася (704).

У 2013 годзе ў шлюб уступілі 553 пары. З іншаземцамі заключана 38 шлюбаў.

Нарадзіліся шэсць двайнятак.

У хлопчыкаў з вялікім адрывам лідзіруе імя Арцём (32). Папулярнымі таксама былі імёны Кірыл (21), Максім (19).

У дзяўчынак канкурэнцыя за лідарства была больш вострая: зарэгістравана 19 Вікторыяў, 18 Сафіяў, 17 Ксеніяў, па 16 Марыяў і Міланаў.

Ёсць такія бацькі, якія выбралі для сваіх нашчадкаў рэдкія імёны: Натаніэль, Дамір, Габрыэль, Ліліт, Крысціна, Бажэна.

### Вілейскі раён

З дэмаграфічнай статысткай за мінулы год пазнаёміла начальнік аддзела ЗАГС **Вольга Мароз**. На Вілейшчыне нарадзілася 471 дзіця, памерлі 907 чалавек. У шлюб уступілі 386 пар.

Для дзяўчынак найчасцей выбіралі імёны Анастасія, Валерыя, Марыя (па 12), Кацярына (10), Ксенія і Сафія (па 9). Што датычыць рэдкіх імён, то па адной юнай жыхарцы будуць адгукацца на Разаліну, Мілэдзі, Марыіту і Віталіну.

Неўзабаве ў садках будзе шмат Мікітаў (17), Мацвеяў (16), Арцёмаў (14).

Зарэгістраваны на Вілейшчыне хлопцы з імёнамі Махамад, Даніэль і Оскар-Васіль.

Сярэдні ўзрост уступлення ў шлюб склаў 30 год у мужчын і 28 – у жанчын.

### Мядзельскі раён

У Мядзельскім раёне летась нарадзілася 248 дзяцей (на 22 менш, чым у пазамінулым). Памерлі 553 чалавекі (у 2012 – 568).

Значна больш летась заключана шлюбаў – 255 супраць 191.

– Гэта, магчыма, звязана з тым, што 2012 год быў высакосным, таму некаторыя і адкладвалі заключэнне шлюбу на наступны год, – кажа начальнік аддзела ЗАГС райвыканкама **Галіна Калмук**.

Летась на Мядзельшчыне нарадзілася 128 хлопчыкаў. Каб назваць іх, бацькам спатрэбілася 47 імёнаў. Самымі папулярнымі імёнамі для хлопчыкаў сталі Кірыл, Максім, Мацвей, Мікіта – па сем. Арсеніяў і Уладзіславаў было па шэсць (пазалетась самымі папулярнымі былі Максім і Уладзіслаў). Называлі сваіх нашчадкаў мядзяльчане і такімі імёнамі, як Дамінік, Леў, Нікас, Рустам.

Дзяўчынак на Мядзельшчыне за год з'явілася на свет менш – 120. Бацькі іх былі больш арыгінальныя ў выбары імён: выкарысталі іх 52. Найпапулярным імем стала Ульяна (10), па сем – Валерыяў і Лізаветаў, шэсць Аляксандраў. Сярод рэдкіх імёнаў – Агнешка, Мішэль, Евангеліна, Дамініка.

На Мядзельшчыне летась нарадзіліся двое двайнят.

### Ашмянскі раён

Найбольш немаўлятак сярод дзяўчынак у раёне летась атрымалі імя Паліна – 15. Вікторыяў было 14, Дар'яў і Сафіяў – па 13, расказала вядучы спецыяліст аддзела ЗАГС **Генуэфа Барыловіч**.

Тры лідары сярод імён для хлопцаў: Аляксей, Арцём і Ягор – па 14. Максімаў на Ашмяншчыне прыбавілася 13.

Нарадзілася ў раёне 408 дзяцей (201 хлопчык і 207 дзяўчынак). А пяць сем'яў прывезлі з радзільнага аддзялення двайнятак.

Заключана 237 шлюбаў (у 2012 годзе было 224). На жаль, і смерцяў зафіксавана на 14 больш – 528.

### Валожынскі раён

У 2013 годзе на Валожыншчыне хлопчыкаў нарадзілася прыкметна больш, чым дзяўчынак (194 супраць 155). Разам прыбавілася 349 дзяцей. З'явілася на свет двое двайнятак.

Усяго аднаго вяселля не хапіла, каб было іх роўна 300.

Адышлі ў іншы свет у Валожынскім раёне 724 чалавекі.

Самае папулярнае імя для хлопчыкаў – Арцём (так назвалі 16 немаўлят). Летась 12 дзяцей назвалі Мацвеямі, 10 – Мікітамі.

Калі казаць пра дзяўчынак, то найбольш было Анастасіяў (13), Дар'яў (12), Ксеніяў і Марыяў (па 9).

– Імя Ксенія з году ў год у нас трымаецца ў ліку самых папулярных, – дзеліцца начальнік аддзела ЗАГС **Тамара Яныш**.

Разам з Давідам, Міронам у ліку рэдкіх на Валожыншчыне аказаліся і Сяргей, Юры, Наташа: усяго па адным дзіцяці летась атрымалі некалі папулярныя імёны.

### Астравецкі раён

На шэсць больш дзяцей нарадзілася ў Астравецкім раёне ў параўнанні з 2012 годам – 313. Амаль на 20 працэнтаў павялічылася колькасць шлюбаў: па інфармацыі начальніка аддзела ЗАГС **Аксаны Дзятко** зарэгістравана іх 221.

Памерлі 428 чалавек (на аднаго больш).

У дзяўчынак па-за канкурэнцыяй было імя Дар'я – 11 маленькіх жыхарак раёна будуць зваць так. Па сем было Аляксандраў, Анастасіяў, Міланаў, Янаў.

Летась на Астравеччыне была мода на Максімаў – з'явілася іх аж 18. Па дзевяць дзяцей сталі Аляксандрамі, Арцёмамі і Мікітамі, па восем – Кірыламі і Мацвеямі.

Называлі дзяцей і такімі імёнамі, як Бенерыто, Данат, Эвальд, а таксама Арыяна, Даяна, Юстына.


Фота medikforum.ru

Якія толькі імёны не даюць бацькі сваім нашчадкам: Разаліна, Мілэдзі, Марыіта, Дамінік, Леў, Нікас…



**Алесь ВЫСОЦКІ.**
E-mail: alvy@tut.by

## Сотае дзіця ў Мядзеле і ваколіцах

**МЯДЗЕЛ. Напрыканцы мінулага года ў аддзеле ЗАГС віншавалі маладую сям'ю Рабчэўскіх з райцэнтра. У іх 12 снежня было папаўненне – нарадзіўся першынец Глеб.**

Ён аказаўся сотым па ліку дзіцем, які з'явіўся на свет у мінулым годзе ў Мядзеле і Мядзельскім сельсавеце.

Таму калі **Руслан** і **Алена** прыйшлі ў аддзел ЗАГС, каб зарэгістраваць нараджэнне сына, іх чакала ўрачыстасць. Маладых бацькоў павіншавалі, уручылі пасведчанне аб нараджэнні, а таксама сертыфікат сотага дзіцяці і сувенірны герб горада.

А яшчэ – падарунак ад раённай арганізацыі "Беларускага фонду міру". Ад імя гэтай арганізацыі завітала іх павіншаваць **Ганна Падгол**.

– А на развітанне мы пажадалі Руслану і Алене абавязкова прыйсці ў наш аддзел яшчэ, каб зарэгістраваць дачушку, – сказала начальнік аддзела ЗАГС **Галіна Калмук**.


Фота забяспечана Галінай КАЛМУК.

Руслан і Алена Рабчэўскія – бацькі 100-га дзіцяці.

